*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

**№ 161 (283)**

Субота, 13 верасня 1997 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень

Выдавец — ТАА "Народная воля"

Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Захад |
|---|---|---|
| Віцебск | 6.27 | 19.24 |
| Магілёў | 6.27 | 19.22 |
| Гомель | 6.26 | 19.18 |
| Мінск | 6.38 | 19.33 |
| Гродна | 6.53 | 19.48 |
| Брэст | 6.55 | 19.47 |

*Поўня 16 верасня.*



## Літоўскае Міністэрства аховы краю абвінавачвае МУС у некампетэнтнасці

Літоўскае Міністэрства аховы краю правяло 10 верасня прэс-канферэнцыю, на якой журналістам былі прадстаўлены афіцэры літоўскай арміі, што падазраюцца ў спробе замаху на кіраўніка беларускай дзяржавы Аляксандра Лукашэнку. Адпушчаныя на свабоду добраахвотнікі раскрытыкавалі дзеянні спецслужбаў МУС Літвы, даказваючы іх некампетэнтнасць і сцвярджаючы, што былі арыштаваны зусім без падстаў.

Кіраўніцтва міністэрства абвергла на прэс-канферэнцыі паведамленне міністра ўнутраных спраў Літвы Відмантаса Жэмяліса аб тым, што сачэнне за афіцэрамі-добраахвотнікамі і іх арышт праваахоўныя органы ажыццяўлялі ва ўзаемадзеянні з іх ведамствам. Сцвярджэнне міністра ўнутраных спраў было ацэнена як некарэктнае, а праведзеная спецслужбамі супраць афіцэраў акцыя названа "зневажаючай годнасць ваенных і якая садзейнічае паглыбленню супярэчнасцей паміж сілавымі структурамі краіны".

**Альгімантас БРАЗАЙЦІС, БелТА.**

**Комментарий**

## Пропагандистское "покушение" в Вильнюсе явно не удалось. Ждем продолжения?..

**Людмила МАСЛЮКОВА,**
**политический обозреватель "Народной воли"**

Как и следовало ожидать, литовские офицеры из Армии охраны края публично и категорически опровергли причастность к так называемому "покушению" на президента Беларуси. Факт с самого начала представлялся сомнительным: "А был ли мальчик?" Достоверно, скорее всего, лишь то, что кем-то была подготовлена и осуществлена пропагандистская акция на тему очередной угрозы жизни Александру Лукашенко.

Помните, накануне вильнюсского саммита депутат Госдумы Виктор Илюхин громогласно заявил об очередной готовящейся "провокации" против славянского вождя. Совет безопасности Беларуси, вероятнее всего, принял подачу из Москвы и наддал жару. Дело оставалось, пожалуй, за малым: кто-то ж должен был как бы "напасть" на объект, вызывающий повышенную тревогу.

"Напала" одна из литовских газет, растиражировавшая хотя и крайне невразумительную версию некоего происшествия, но все же хоть сколько-нибудь скандальную. Сенсацию, впрочем, раздуть не удалось, обошлось легким словесным выхлопом. Если и было в нем что интригующее, так опять же ссылки в средствах массовой информации на источники, которые трактовали это нечто как попытку покуситься на Александра Григорьевича. Источников называлось два — спецслужбы Москвы и Минска. Ну как тут не заподозрить, что родилась разработка в тех же недрах и что литовское Министерство внутренних дел пошло на поводу закоперщиков и вляпалось в некрасивую историю?

Итак, в Литовской Республике "акция" фактически разоблачена как никогда не существовавшая в действительности. Между тем из Минска еще пытаются надуть бесславно лопнувший пузырь. На днях по каналам "Интерфакса" руководитель подразделения информации и общественных связей Службы безопасности президента Беларуси Александр Муштa попросил Вильнюс "проинформировать о планировавшемся покушении".

В связи с такой постановкой вопроса и по совокупности фактов возникает естественный вопрос: кто же, в самом деле, планирует то, что так назойливо напрашивается на название провокации? Интуиция (ну какой с нее спрос?) нашептывает, что дезинформация вполне может рождаться как раз в Службе безопасности президента Беларуси, в тесном кругу буквально двух-трех человек. В исполнителях недостатка нет. А если, например, Илюхину поручают напугать мир в который раз, то на их языке эта самая СБП перекодируется в аббревиатуру "ЦРУ".

Наконец, соображение на перспективу. Учитывая вильнюсский провал и очевидную необходимость реванша, в ближайшее время следует ждать развития пропагандистского сюжета "покушение на Лукашенко". Больно сказка хороша — начинай сначала! Представляется вероятным, что фальсифицированные попытки будут учащаться, и, возможно, настанет пора, когда на белорусского президента будут бросаться в любом городе, куда бы он ни приехал. Народ любит гонимых.

С другой стороны, не заиграться бы. Ведь навязчивый мотив может овладеть сознанием с патологическими сдвигами какого-нибудь гражданина. Всякому же нормальному человеку претит игра со смертью. Про такие, с позволения сказать, забавы и сложена народом поговорка: не накаркать бы беды.

**Курьер**

## Для нефти — простоват, для дипломатии — годен

Как известно, стало вакантно место посла Беларуси в Латвии. Прежде его занимал Валентин Величко, который теперь приезжает в Минск в роли министра по делам СНГ. Ходят разговоры, что на его место прочат Ивана Бамбизу. Напомним, что И.Бамбиза был заместителем председателя Верховного Совета Беларуси 12-го созыва, затем министром по делам СНГ. В последнее время он возглавляет "Белнефтехимию".

Один из известных белорусских политиков, комментируя возможный переход И.Бамбизы на дипломатическую работу, сказал мне такие слова: "Для работы с нефтью Бамбиза слишком простоват..." Если принять эти слова на веру, то странная получается картина: для нефти — простоват, для дипломатии — годен.

**Владимир КОТ.**

**Стоп-кадр**

У македонскім горадзе Струга толькі што закончыўся Міжнародны фестываль паэзіі. У гонар паэтаў, удзельнікаў фестывалю, былі ўзняты сцягі іхніх дзяржаў. Сярод іншых і сцяг Беларусі — бел-чырвона-белы. Менавіта такое рашэнне наконт гістарычнай нашай сімволікі прыняў камітэт па правядзенню фестывалю. Гэта яшчэ раз пацвярджае, што беларуская паэзія з'яўляецца захавальніцай гістарычнай памяці і нацыянальнай свядомасці.

**На здымках:** *удзельнік фестывалю беларускі паэт Алесь Разанаў (злева) з македонскім паэтам Міхаілам Рэнджавым на Алеі сцягоў каля беларускага сцяга; Алесь Разанаў з прэзідэнтам Македоніі Кіра Глігоравым (жнівень 1997 г.).*

**З першых вуснаў**

*Роза НАВУМЧЫК:*

## "Сваю дарогу Сяргей выбіраў сам, і Бог яму насустрач"

***Прайшоў год, як лідэры Беларускага народнага фронту Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык атрымалі палітычны прытулак у Злучаных Штатах Амерыкі. Па-рознаму каменціравалі тады гэтую падзею асобныя палітычныя дзеячы нашай краіны, журналісты, простыя беларусы. Не заставаліся ў баку і прадстаўнікі ўлады. І напэўна, ніхто не задумваўся, як рэагавалі на гэтыя выступленні дзве жанчыны — маці Зянона Станіслававіча і Сяргея.***

***Сёння мы запрасілі маці Сяргея Навумчыка — Розу Ягораўну — успомніць падзеі таго часу і расказаць чытачам "Народнай волі", як і чым жыве ў эміграцыі яе сын.***

**— Па-першае, хацелася б бліжэй пазнаёміцца з Вамі, Роза Ягораўна. Імя Сяргея Навумчыка ведае ўся краіна, небезвядомы і Ваш муж, Іосіф Адамовіч, а Вы, мне здаецца, заўсёды заставаліся ў цяні, за плячыма сваіх мужчын...**

— Згадзіцеся, быць у цяні зусім нядрэнна: не дужа прыпякае і ад ветра зацішней. Ну а калі сур'ёзна, то я лічу, што кожны нясе свой крыж. Шчаслівы той, каму ён па сіле і па душы.

Я 35 гадоў займалася адной справай — выкладала гісторыю, спачатку ў школе, а потым — у інстытуце. Увесь час была камсамольскай і партыйнай актывісткай, двойчы збірала цалінны ўраджай, 15 месяцаў дрыжэла ад страху ў Афганістане. Словам, жыццё пракаціла мяне "не ў баку ад сталбавой дарогі развіцця" нашага грамадства.

Ад працы я зведала вялікую радасць і задавальненне, а ў канцы яе — глыбокі драматызм, калі выявілася ўшчэрбнасць савецкай гістарычнай адукацыі і ўвогуле сацыялістычнай сістэмы. Прасвятленне наступіла дзякуючы галоснасці, патоку публікацый засакрэчаных архіўных матэрыялаў, гістарычных даследаванняў і пакутліваму роздуму над усім гэтым. Перагляд, як раней здавалася, непахіснай сістэмы светапогляду, адмаўленне ад псеўдаісцін каштаваў мне вялікіх душэўных і інтэлектуальных намаганняў. Цяпер я турбуюся за лёс унукаў. Няўжо і ім будуць забіваць галаву хламам і хлуснёй замяталінскіх падручнікаў, цягнуць да Янчэўскага? Альтэрнатыва гэтаму — у сямейным выхаванні. Так што зацішша не было, няма і не будзе.

**— У пачатку 90-ых, калі актыўнай палітычнай дзейнасцю стаў займацца Ваш сын, распаўсюджваліся плёткі, што яго погляды дыяметральна разыходзіліся з поглядамі бацькі. Аб сямейных спрэчках Навумчыкаў нават расказвалі гісторыі. Як паводзілі сябе Вы, Роза Ягораўна?**

— Ведаеце, з плётак пошлін не бяруць, таму іх і шмат.

Думаю, ні адну сям'ю не абмінае спрадвечная праблема бацькоў і дзяцей, бо пакаленні не падобны па свайму светаўспрыманню і тэмпераменту. Зразумела, чаму ў нашай сям'і гэтая праблема праявілася ў палітычных і ідэалагічных рознагалоссях. У той цяжкі час я імкнулася займаць нейтральную пазіцыю, каб ураўнаважыць бакі і зберагчы камфортны псіхалагічны мікраклімат хаця б у сям'і.

Калі я за іншадумства сына не адчувала ніякага ўшчамлення ў інстытуце (вядома ж, педагогі — людзі разумныя, дзякуй ім!), то бацька, чалавек прыстойны, адразу папаў у апалу. Жорсткасць і бесчалавечнасць у адносінах да яго выразіліся не толькі ў кознях, але і ў прапанове яму публічна адрачыся ад сына. Там маглі дараваць крадзеж, п'янства, распусту, а дысідэнцтва — нікому і ніколі. І быў бы бацька на дыбе, ды кат сканаў...

**— Сяргей рос у сям'і камуністаў, Ваш муж у той час з'яўляўся сакратаром па ідэалогіі Віцебскага абкама партыі. Сяргей расказваў, што неаднойчы яго папракалі ў тым, што ён быццам бы сваё жыццё "пазнаваў праз вокны абкамаўскай "Волгі". Якім было дзяцінства Сяргея?**

— Гэтыя і іншыя папрокі выказаны самім прэзідэнтам з імпэтам сварлівай свекрыві. Уласцівыя для такіх натур канфліктнасць, хлуслівасць, помслівасць, алагічнасць і непаслядоўнасць толькі на шкоду ўсім. Ад іх моташна і няўтульна.

Дзяцінства ў Сяргея было такое ж, як і ва ўсіх дзяцей таго часу. Хадзіў у дзіцячы садок, вучыўся і, можна сказаць, вырас у 28-ай сярэдняй школе Віцебска, дзе я працавала завучам. Любіў чытаць і многа часу праводзіў за кнігамі. У нашай сям'і адзіным багаццем і былі кнігі. Даходам — як і ў большасці сямей вакол нас — зарплата.

Настаўнікаў дзяржава ніколі не перакармлівала, а ў мужа (добра памятаю, бо збірала партыйныя ўзносы) у гаркаме зарплата была, як у дырэктара школы, у абкаме — як у дэкана факультэта.

"Прывілеі" скрупулёзна аплачвалі. У той час, калі мы за кватэру кожны месяц плацілі 18 рублёў, то за абкамаўскую дачу — 21 рубель, і нават тады, калі былі ў Афганістане і ёй не карысталіся. Не было ў нас і лішняй жылплошчы. Да гэтага часу з намі жыве сям'я дачкі. Ды і на мне ніхто ніколі не бачыў ні натуральных шуб, ні самацветаў. Той, хто добра ведаў нашу сям'ю, ні разу не сказаў, што нашыя дзеці жылі ў раскошы.

І мяне, і мужа найбольш турбавала духоўнае развіццё асобы. Дзверы нашай кватэры заўсёды былі адчынены для нашых сяброў і сяброў дзяцей. У доме часта бывалі вядомыя беларускія пісьменнікі, публіцысты, работнікі культуры, вучоныя, ваенныя, грамадскія дзеячы. І гэта, безумоўна, зрабіла ўплыў на дзяцей. Сяргей рос таварыскім, незакамплексаваным хлопцам, без пачуцця страху перад аўтарытэтамі.

**— Чаму менавіта адным з лідэраў Беларускага народнага фронту стаў Ваш сын?**

— Я ніколі не задавалася такім пытаннем. Але ж, вядома, прычыны ёсць.

Яго лідэрства я аднесла б да рацыянальна-легальнага тыпу, і мне няёмка аналізаваць якасці, за якія ён быў абраны ў кіраўніцтва БНФ дэмакратычным шляхам. Лепш за мяне гэта ведаюць і могуць зрабіць сябры па фронту. Для мяне ж, як маці, дастаткова, што яго яны, а цяпер яшчэ і ў беларускай дыяспары за мяжой, цэняць і прызнаюць.

**— Ваша адзнака дзейнасці БНФ?**

— Цяпер, пасля з'езда БНФ, амаль усе публіцысты і палітолагі прызналі, што БНФ — адна з самых уплывовых палітычных сіл у грамадстве. З гэтым я згодна. Ад сябе скажу, што мне ў асноўным імпануюць стратэгічныя мэты БНФ, але ў вызначэнні тактыкі, мне падаецца, дапускаецца нямала памылак.

Бясспрэчныя заслугі БНФ бачу ў набліжэнні незалежнасці Беларусі, ліквідацыі манаполіі КПСС на ўладу і ўстанаўленне шматпартыйнасці. Сваёй дзейнасцю глыбокую павагу выклікаюць сябры БНФ — высокаадукаваныя, бескарыслівыя і самаахвярныя дзеці сваёй Бацькаўшчыны.

**(Заканчэнне на 3-яй стар.)**

**На здымках:** *падчас сустрэчы з сынам у Празе. Красавік 1997 года (зверху). За сямейным сталом.*

**Здарэнне**

## Аўтатрагедыя здарылася днём

Дарога заўсёды поўная нечаканасцей і небяспекі. Нават такая аўтамагістраль, як праспект Ф.Скарыны ў Мінску. Менавіта тут, каля дома 174, бяда напаткала аўтамабіль, за рулём якога знаходзіўся вядомы фотажурналіст, супрацоўнік газеты "Советская Белоруссия" Віктар Драчоў. Як значыцца ў матэрыялах дзяржаўтаінспекцыі, ён не справіўся з кіраваннем, і машына ўдарылася ў слуп. Вадзіцель, які атрымаў цялесныя пашкоджанні, шпіталізаваны, а пасажыр, які ехаў з ім, загінуў.

**Закуліссе**

## У Каір не праз дзверы, як усе, а праз...

11 верасня ў Каіры адкрылася 98-ая міжпарламенцкая канферэнцыя Міжпарламенцкага Саюза — арганізацыі, якая аб'ядноўвае больш за 100 краін свету. Да нядаўняга часу знаходзілася ў ім і Беларусь. Аднак на 97-ай канферэнцыі, якая праводзілася ў красавіку гэтага года ў Сеуле, па рэкамендацыі выканкама Міжпарламенцкага Саюза было прынята рашэнне аб прыпыненні членства ў саюзе Нацыянальнай групы Беларусі. Прычына ўсім добра вядомая — у аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі вельмі скептычна аднесліся да ўмоў, у якіх праходзіў апошні беларускі рэферэндум.

Аднак афіцыйным беларускім уладам вельмі ж хочацца трапіць у міжнародную арганізацыю. А таму незадоўга да пачатку сустрэчы ў Каіры кіраўнікі беларускага парламента Павел Шыпук і Анатоль Малафееў накіравалі на імя генеральнага сакратара Міжпарламенцкага Саюза зварот, у якім настойвалі на абавязковым разглядзе пытання аб членстве Беларусі ў МПС.

Аднак у Егіпет прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу афіцыйна не запрасілі. Ну а што робяць, калі перад табой зачыняюць дзверы? Вядома што. Як казаў класік, "а он в окно...". Так і старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Павел Шыпук накіраваўся ў Каір у якасці кіраўніка дэлегацыі Міжпарламенцкай асамблеі СНД.

Хаця, паўтаруся, беларуская дэлегацыя на сустрэчу афіцыйна не была запрошана, тым не менш парламентарыі рэспублікі выехалі ў Егіпет. Выехалі, як яны паведамілі, з надзеяй, што пытанне аб членстве нацыянальнай групы Беларусі ў саюзе будзе ўсё-такі вырашана станоўча. Сярод тых, хто адправіўся ў Каір, апрача Паўла Шыпука, — сенатар Мікалай Чаргінец, дэпутат ніжняй палаты Нацыянальнага сходу Іван Пашкевіч, а таксама выканаўчы сакратар нацыянальнай групы Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь у Міжпарламенцкім Саюзе Уладзімір Чарнышоў.

**Уладзімір ГЛОД.**

**В редакцию "Народной воли"**

## Такое утверждение неверно и беспочвенно

Уважаемый господин редактор!

Статья "Беларусь — Тайвань: отсутствие политики" ("Belarus — Taiwan: policy lacking"), опубликованная в газете "Minsk Economic News" в № 2 в августе 1997 года, предлагает читателям глубокий и серьезный анализ ситуации, сложившейся сегодня в отношениях между обеими сторонами.

Однако, к сожалению, эта статья содержит одно ошибочное утверждение. В частности, автор, анализируя планы Тайваня сократить свои неэффективно работающие заграничные представительства, приходит к выводу о том, что и Тайбэйская торгово-экономическая миссия в Минске "еще до октября 1997 года может быть закрыта по решению самих тайваньцев". Это утверждение неверно и беспочвенно.

Я хотел бы заявить в этой связи, что тайваньская сторона не имеет намерений прекратить свою деятельность в Беларуси.

Я был бы признателен, если бы Ваша газета смогла опубликовать данное письмо в своем ближайшем сентябрьском выпуске.

С наилучшими пожеланиями —

**Туан Пей-Лунь,**
**Представитель Тайбэйской торгово-экономической миссии в Минске.**

**Дайджест**

## В Америке гоняются за советским

Одним из наиболее прибыльных видов бизнеса в Соединенных Штатах Америки считается торговля предметами, символизирующими коммунистическое правление бывшего Советского Союза. По информации агентства ДПА, в настоящее время по всей Америке распространилась сеть специальных магазинов "Советски коллекшнз", в которых можно приобрести все, начиная от матрешек и кончая запасными частями к самолетам МИГ. Агентство также сообщает, что, по свидетельству владельцев сети магазинов, наибольшим спросом у покупателей пользуются специальные несгораемые и обогреваемые комбинезоны пилотов российских истребителей. По данным агентства, эти комбинезоны стоимостью полторы тысячи долларов расходятся в таких количествах, что оборотистые предприниматели даже не успевают пополнять их запасы.

## Германскому правосудию не присуща предвзятость

С необычным делом столкнулся западногерманский суд. По информации агентства ДПА, в ближайшее время перед судом предстанут граждане ФРГ — семидесятилетний Гюнтер Дюзе и шестидесятиоднолетний Манфред Герман. Им инкриминируется то, что они в 1970 году в знак протеста против коммунистического правления в Восточной Германии пытались из пистолета через Берлинскую стену застрелить солдат армии ГДР. Им будет предъявлено обвинение в покушении на убийство. Несмотря на то, что в солдат они не попали, подследственным грозит длительное тюремное заключение. По мнению агентства, этот случай как нельзя лучше свидетельствует о демократичности и непредвзятости немецких властей.

## Министерство обороны ФРГ пострадало от воров

Второй раз за короткий промежуток времени Министерство обороны Германии стало жертвой обыкновенных воров. По информации агентства ДПА, обычные квартирные воры вынесли на этой неделе из Министерства обороны факс, видеомагнитофон, телевизор, музыкальный центр, телефон и диапроектор. Агентство сообщает, что по сведениям полиции в министерстве орудовали самые обыкновенные воры, которые обычно специализируются на кражах из квартир и домов частных лиц. Агентство также приводит сведения, согласно которым на минувшей неделе такие же воры вынесли из здания Министерства обороны мощный компьютер стоимостью более ста тысяч немецких марок.

**Подготовила**
**Светлана РОСТОВА.**

**Прислушайтесь!**

## Подружитесь с латвийским "Белорусским путем" и вы окажетесь в выигрыше

В Латвии проживает свыше 100 тысяч этнических белорусов, которые не имеют повседневных полнокровных связей со своей исторической родиной. Они создали культурно-просветительское общество, художественный ансамбль "Надзея", открыли в Риге белорусскую школу, издают газету "Прамень". И это все при том, что латвийские белорусы не получают финансовой помощи ни от белорусского, ни от латвийского государств. Вся их многообразная культурно-просветительская деятельность осуществляется за счет материальной поддержки предпринимательских структур белорусов Латвии, объединенных в ассоциацию "Белорусский путь". Именно эта ассоциация внесла предложение о создании белорусского культурного информационно-коммерческого центра в Риге.

Центр белорусской диаспоры в Риге планирует оказывать серьезную помощь предприятиям и организациям Республики Беларусь, которые желают выйти на балтийский рынок, а латвийским предпринимателям — выйти на белорусские просторы.

Здание белорусского культурного информационно-коммерческого центра в Риге планируется достроить и ввести в эксплуатацию уже в этом году.

**Елена СЫС.**

### Погода

13, 14 сентября сохранится облачная с прояснениями погода, преимущественно без осадков. 13-го по северо-западной половине республики пройдут кратковременные дожди. Температура ночью 13 сентября — +7—+12, 14-го — +9—+14. Днем — +17—+22, по северо-западу — 14—19 градусов тепла. 14-го местами по республике пройдут кратковременные дожди. Температура ночью — +9—+14, днем +13—+18. 13-го по юго-востоку республики до 21 градуса тепла.

**Контакты**

## Любознательность... до Киева доведет

Делегация молодежной организации "Гражданский форум", состоящая из 15 человек, находилась с визитом в Киеве. Здесь проходила в рамках программы "круглого стола", организованного фондом "Відродження", фондом "Евразия", Институтом трансформации общества (Украина), молодежной организацией "Гражданский форум" (Беларусь), встреча молодых белорусских граждан с украинскими коллегами. Тема стола: "Роль и функция государства в трансформации общественно-экономических отношений".

Белорусскую делегацию возглавлял президент форума, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва Владимир Новосяд.

В "круглом столе" с украинской стороны участвовали двадцать экспертов, среди которых народные депутаты Украины господа Самофалов, Шандрюк, Чечетов, главный консультант Управления экономической и социальной политики Администрации президента Украины г-н Савченко, руководитель Группы советников председателя Национального бакна Украины г-н Лисицкий, вице-президент Украинской фондовой биржи г-н Суровец, зам. директора Украинской Межбанковской валютной биржи г-н Дробязко, представитель Миланской торговой палаты в Киеве г-н Скаккабароцци Лоренцо, директор Украинского института предпринимательства г-н Орленко и другие видные политики, экономисты и бизнесмены Украины.

**Пресс-служба организации "Гражданский форум".**

### Курсы обмена наличных валют в коммерческих банках и официальный курс, установленный Национальным банком на 11 сентября 1997 г. (по состоянию на 9.50)

| Наименование банка | USD | | DM | | RUR | | Телефон для справок |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | Покупка | Продажа | |
| Минск (0-172) | | | | | | | |
| Абсолютбанк | 27600 | 27640 | 15200 | 15250 | 4,71 | 4,73 | 636-080 |
| Белагропромбанк | 27640 | | 15240 | | 4,72 | | 285-716 |
| Белбизнесбанк (гл. опер. упр.) | 27600 | 27640 | 15100 | 15250 | 4,69 | 4,73 | 769-531 |
| Белбизнесбанк (гор. дир.) | | | | | | | 271-960 |
| Белвнешэкономбанк | 27600 | 27640 | 15100 | 15253 | 4,68 | 4,73 | 267-022 |
| АКБ "Золотой талер" | 27640 | | 15250 | | 4,73 | | 267-597 |
| Минский транзитный банк | 27600 | 27640 | 15200 | 15250 | 4,71 | 4,73 | 132-916 |
| Ф-л "Милавица" АКБ "Минский транзитный банк" | 27620 | 27640 | 15220 | 15250 | 4,70 | 4,73 | 372-825 |
| Ф-л Мосбизнесбанка | 27500 | 27640 | 15100 | 15250 | 4,68 | 4,73 | 286-278 |
| Народный банк | 27400 | 27640 | 15100 | 15250 | 4,69 | 4,73 | 238-610 |
| "Новоком" | 27500 | 27640 | 15100 | 15250 | 4,70 | 4,73 | 603-402 |
| Приорбанк | 27500 | 27640 | 15110 | 15250 | 4,69 | 4,73 | 455-721 |
| РРБ | 27500 | 27640 | 15150 | 15250 | 4,69 | 4,73 | 266-941 |
| "ФФФ" | 27620 | 27640 | 15200 | 15250 | 4,70 | 4,73 | 621-601 |

**Информация предоставлена ПКФ "Агентство Гревцова".**
**Тел./факс (017) 262-16-17.**

3 першых вуснаў

Роза НАВУМЧЫК:

# "Сваю дарогу Сяргей выбіраў сам, і Бог яму насустрач"

(Заканчэнне. Пачатак на 2-ой стар.)

**— Цяжка быць маці апазіцыйна настроенага сына?**

— Вельмі цяжка. Пакуль у Беларусі не ўсталяваліся традыцыі прававой дзяржавы і нормы палітычнай этыкі, уладныя структуры дазваляюць сабе беспакарана, дзікім спосабам падаўляць апазіцыянераў, прыносячы фізічны і душэўны боль ім і іх родным. Помніце збіванне дэпутатаў 12-га склікання ў 1995 годзе і мітынгоўцаў гэтай вясной? А знявага апазіцыі кожны дзень у дзяржаўных СМІ? Цяжка ад свайго бяссілля дапамагчы ім.

Ужо другі месяц я, уся наша сям'я захапляемся гордай пазіцыяй і мужнасцю маці Паўла Шарамета. Дай вам Бог, Людміла Станіславаўна, здароўя вытрымаць гэты здзек улады. Даўно заўважана — пасрэднасць заўжды агрэсіўна да таленту, але яго задушыць немагчыма.

**— Жонка Сяргея, Галіна Навумчык, пасля вясенне-летніх падзей мінулага года неаднойчы ў беларускай прэсе адзначала, што яе "ахоўваюць" прадстаўнікі сілавых структур краіны. А Ваша сям'я, Вы асабіста, Роза Ягораўна, адчуваеце сёння, што Ваш сын — палітычны эмігрант?**

— Яшчэ як адчуваем. І не толькі мы, але і сваты — Галіны бацькі. Вы самі можаце зрабіць выснову з цынічнага артыкула цэнтра інфармацыі КДБ, змешчанага ў вашай газеце ў красавіку гэтага года. Я ўсю восень толькі па тэлефоне дамаўлялася з сынам аб сустрэчы, чаго, на жаль, тады не адбылося, а КДБ заявіў, што мы сустракаліся. Ці не такімі заганнымі метадамі шыюцца справы членаў апазіцыі, журналістаў? Сапраўды, сабака і ў сабалінай шубе шукае блох.

А тое, што кіраўніцтва камітэта ўсур'ёз рыхтуецца адзначыць юбілей "рыцара рэвалюцыі" Фелікса Дзяржынскага, задача якога была, паводле яго ж слоў, "бязлітасна знішчаць ворагаў рэвалюцыі", гаворыць аб усім астатнім.

**— Роза Ягораўна, напэўна, Вы памятаеце той час, калі даведаліся, што Сяргей пакінуў Беларусь? Як Вы аднесліся да эміграцыі сына?**

— Станоўча. Кожная маці скажа, што жыццё дзяцей даражэй для яе за ўсё на свеце. Калі амерыканскі ўрад, нягледзячы на пазіцыю Міністэрства замежных спраў Беларусі і Расіі, даў Зянону Станіслававічу і Сяргею статус палітэмігрантаў, то ў дастатковасці падстаў для эміграцыі сумнявацца не прыходзіцца.

Падзеі таго часу помню да драбніц. Ад нечаканай весткі я была ў разгубленасці — вядома ж, падзея незвычайная. А рэакцыя нашых улад напаміна мне патрывожаны куратнік.

**— Адразу пасля таго, як Сяргей Навумчык і Зянон Пазьняк атрымалі палітычны прытулак у ЗША, у прэсе тыражыраваліся паведамленні, што лідэры БНФ неаднойчы заяўлялі аб сваім намеры перастраляць усіх камуністаў краіны. Як Вы адрэагавалі на такія заявы?**

— Як на чарговую бессаромную хлусню, якой цяпер надаецца ранг дзяржаўнай палітыкі.

**— Ужо год, як Ваш сын пакінуў краіну і заявіў, што не вернецца ў Беларусь да таго часу, пакуль на Беларусі не падзе "рэжым Лукашэнкі". Ці сустракаліся Вы з сынам?**

— Толькі праз год, у красавіку, мне ўдалося сустрэцца з сынам у Празе, куды прыехаў Сяргей да сваёй жонкі. Галя працуе там па кантракту на радыё "Свабода".

Для ўсіх нас гэта быў радасны і журботны тыдзень. Сяргей — чалавек дамашні, і вымушаную разлуку перажывае вельмі цяжка. Асабліва гараваў, што не змог развітацца са сваёй любай 93-гадовай бабуляй Ядзяй, якую пахавалі мы гэтай вясной. Цікавіўся жыццём блізкіх і далёкіх людзей, нават тых, якія, я думала, яго раней не хвалявалі.

Я сама ўбачыла яго нялёгкую долю на чужбіне, хаця сацыяльна-бытавыя праблемы там вырашаюцца меншымі намаганнямі людзей. Вярнуўшыся дамоў, я доўга знаходзілася ў дэпрэсіі, прычынамі якой былі не толькі горыч расставання з сынам, але ў большай меры — адчуванне безвыходнасці становішча, у якім апынулася наша грамадства. Можа, і добра, што напрыканцы XX стагоддзя нашы людзі не маюць нават малейшага ўяўлення аб дастойных чалавеку ўмовах жыцця. Няма ўяўлення, няма і імкнення. Але добра і выгадна гэта толькі ўладзе.

**— Як сёння жыве Сяргей? Спажывае экалагічна чыстыя амерыканскія прадукты і не думае пра лёс беларускага народа?**

— Дзякуй Богу, што сын спажывае экалагічна чыстыя прадукты. І не трэба на гэтым спекуляваць. Такія прадукты спажывае ўвесь цывілізаваны свет. Я вельмі шкадую, што ні мае ўнукі, ні вашы дзеці, ні ўсе мы, жывучы ў Беларусі, не маем магчымасці гэта рабіць. А як сёння ставіцца да слоў Лукашэнкі, што многія дзеці толькі ў школе за кошт дзяржавы могуць нармальна паесці?

Гэта толькі ў нас беднасць, адсутнасць прыватнай уласнасці, жыллёвая неўладкаванасць, забруджаныя прадукты — норма жыцця. У цывілізаваным свеце — наадварот. Але ж нас, на вялікі жаль, туды не вядуць, хаця гэта і абяцаў кіраўнік дзяржавы.

Жыццё Сяргея пакуль не ўладкавана, бо інтэгравацца ў іншую сістэму не так проста. Фінансавая дапамога палітэмігрантам законам ЗША не прадугледжана. Цяпер асноўны карміцель у сям'і — Галя. Некаторы час Сяргей жыў у Празе, як нармальны муж ён імкнуўся да жонкі, і гэта зразумела.

Зараз Сяргей зноў у Амерыцы. Актыўна ўдзельнічае ў жыцці беларускай дыяспары. Ніколі ён не забываў пра сваю Радзіму і лёс свайго народа.

**— Вы хацелі б, каб Ваш сын адмовіўся ад палітычнай дзейнасці?**

— Не, бо гэта немагчыма. Сяргей — чалавек мэтанакіраваны, і паўплываць на яго можа толькі Галя. Навязванне дарослым дзецям сваіх жаданняў, роўна як і ідэй, я разумею як насілле над асобай. Сваю дарогу ён выбіраў сам, і Бог яму насустрач. Галоўнае, каб быў здаровы, не страціў надзею і не астудзіў сваё сэрца. Я вельмі ўзрадавалася, калі прачытала ў вашай газеце яго хадайніцтва ў абарону Тамары Вінніковай. Значыць, ён па-ранейшаму мяккі і спагадлівы да людзей.

**— Кожная маці думае пра будучае сваіх дзяцей. Якім яно, на Ваш погляд, будзе ў Сяргея?**

— Бога прашу, каб будучае яго было светлым. Добра ведаю, што яго лёс, як і лёс кожнага свядомага беларуса, звязаны са сваім народам. І будучае ў яго будзе такім жа, як і ва ўсяго беларускага народа. Дабудзе ён сапраўдную свабоду, незалежнасць, дастойны дабрабыт — і Сяргей будзе адчуваць сябе шчаслівым, калі гэта, не дай Бог, не здарыцца на працягу яго жыцця — будзе пакутаваць і мыкацца. Таму і для мяне, і для ўсёй маёй сям'і жыццёва важна, каб жыла Беларусь.

**Гутарку вяла Марыя ЭЙСМАНТ.**



*Латвия*

## Улманис называет работу посла Латвии в России "обязанностью" особого рода

Президент Латвии Гунтис Улманис полагает, что сейчас между Ригой и Москвой "формируются основательные, фундаментальные отношения, которые и должны поддерживать между собой международно признанные суверенные государства". Такое мнение латвийский лидер высказал, вручая аккредитационные грамоты новому послу Латвии в РФ Имантсу Даудишсу.

В ходе церемонии Г.Улманис отметил: "Быть послом Латвии в России — обязанность и работа особого рода, потому что мы являемся соседями на протяжении столетий. Прошлое в отношениях между нашими странами изобиловало нелегкими испытаниями".

Президент указал послу на важную задачу — "думать над тем, как вовлечь Россию в более тесное сотрудничество со странами Балтийского региона".

**Справка "Интерфакса".** И.Даудишс родился в 1945 году, по образованию инженер-технолог. С 1988 года был секретарем президиума Верховного Совета Латвийской ССР, затем после провозглашения независимости постоянно занимал аналогичную должность в парламенте первого и второго созывов. Он является членом одной из крупнейших по представительству в парламенте и правительстве партии "Латвийский путь".

И.Даудишс сменит на посту главы дипломатической миссии в РФ Яниса Петерса, который находился на этой должности с августа 1991 года, а до восстановления независимости являлся полномочным представителем республики в Москве.

*Грузия*

## По приказу президента

"Грузинская армия готова выполнить любой приказ президента Эдуарда Шеварднадзе, в том числе решить абхазскую проблему силовым методом", — заявил министр обороны Вардико Надибаидзе на расширенном заседании бюро парламента и правительства, посвященном вопросам урегулирования конфликта в Абхазии.

Как подчеркнул министр, "армия всецело подчиняется своему главнокомандующему, президенту Грузии и его решения будут выполняться беспрекословно".

Между тем в столице Абхазии — Сухуми начался очередной раунд переговоров по урегулированию грузино-абхазского конфликта.







13—20 верасня

# ШТО, ДЗЕ, КАЛІ?

## ■ ВЫСТАВЫ

**Нацыянальны мастацкі музей** прапануе пазнаёміцца з экспазіцыяй твораў Івана Айвазоўскага з фондаў музея. З *18 верасня* тут працуе экспазіцыя "Віцебская акварэль".

**У Палацы мастацтваў** — выстава твораў знакамітага мастака Віктара Барабанцава, прысвечаная 50-годдзю з дня яго нараджэння.

**У Нацыянальным музеі гісторыі Беларусі** працуе фотаэтнаграфічная выстава "Палессе, якога мы не ведаем", прысвечаная даследаванню Брэсцкай і Гродзенскай абласцей вядомым польскім этнасацыёлагам Юзэфам Абрэмбскім. На экспазіцыі прадстаўлены фотаздымкі, зробленыя Абрэмбскім падчас "падарожжа на Палессе" ў 20—30-я гады, і фотаэкспанаты студэнтаў Варшаўскага універсітэта 90-х гадоў. Таксама тут можна пабачыць выставу "Ля вытокаў беларускай археалогіі" і даведацца пра цяжкі лёс беларускіх археолагаў, рэпрэсаваных у 1937 годзе, пазнаёміцца з іхнімі працамі. Па заканчэнні выставы плануецца правесці навуковы семінар, дзе адбудзецца выніковая гутарка пра ролю выставы ў культурных стасунках паміж Польшчай і Беларуссю.

Па-ранейшаму ў музеі можна акунуцца ў свет "Казачных фантазій".

**Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны** запрашае наведаць экспазіцыю, якая распавядае пра трагедыю беларускага народа ў перыяд фашысцкай акупацыі. Наведвальнікаў музея чакаюць дзве выставы: "Радавыя Перамогі" і "Светлая памяць". Першая прысвечана ваенным лёсам простых салдат, а другая экспануе творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Яшчэ ў музеі пачала працаваць экспазіцыя "Першыя ўзнагароды Вялікай Айчыннай вайны", прымеркаваная да 50-годдзя з дня заснавання першых медалёў і ордэнаў.

**У Літаратурным музеі Янкі Купалы** на працягу месяца пройдзе літаратурная тэматычная вечарына "Беларусы ў Вільні", а таксама будуць падведзены вынікі Міжнароднага купалаўскага пленэру, што адбыўся сёлета ў маі — ліпені.

**Музей гісторыі беларускай літаратуры** зараз рыхтуе выставы, прысвечаныя творчай дзейнасці Алеся Адамовіча, Пімена Панчанкі, Максіма Танка. Пра час адкрыцця гэтых выстаў наша газета паведаміць у наступных нумарах.

**У мастацкай галерэі "Жыльбел"** *(вул. Багдановіча, 9а)* праходзіць выстава экзатычных катоў і кошак розных колераў, памераў і парод.

**Галерэя "Мастацтва"** *(пр-т Ф.Скарыны, 12)* запрашае пазнаёміцца з творамі акадэміка-графіка Валерыя Славука.

**Музей валуноў** *(мікрараён Уручча-2)* запрашае на экскурсію па валунах, сабраных з усёй тэрыторыі рэспублікі.

**Галерэя "Верхні горад"** *(пл. Свабоды, 5)* запрашае пазнаёміцца з творамі беларускіх мастакоў: Алега Скавародкі (Віцебск), Ігара Рымашэўскага, Леаніда Шчамялёва, Мікалая Бушчыка, Яны Первяковай, Дзмітрыя Маслея, Дзмітрыя Зяньковіча, Ніны Голышавай, Эдуарда Багранцава, Валянціна Губарава і іншых. Таксама тут можна наведаць экспазіцыю мастака Алеся Сушы.

**У Палацы культуры Мінскага трактарнага завода** кожную нядзелю праходзіць кніжная выстава-кірмаш.

**У Рэспубліканскім доме тэхнічнай і мастацкай творчасці навучэнскай моладзі** *(вул. Славінскага, 12)* экспануецца больш за дзве тысячы твораў тэхнічнай і мастацкай творчасці беларускіх юнакоў і дзяўчат.

**У музеі прыроды і экалогіі** *(вул. К.Маркса, 12)* — даволі экзатычная экспазіцыя "Чароўны свет матылькоў", дзе прадстаўлены дзённыя і начныя матылькі Еўропы, Азіі, Амерыкі, Афрыкі.

**У ВАЛОЖЫНЕ**

**Краязнаўчы музей** запрашае пазнаёміцца з выставай "Птушкі Налібоцкага краю", падрыхтаванай з фондаў сталічнага музея прыроды і экалогіі.

**У музеі сучаснай беларускай скульптуры імя Андрэя Бэмбеля** экспануецца выстава твораў скульптара Анатоля Бачкарова (1942—1997).

**У ГОМЕЛІ** *з 19 па 21 верасня* падчас святкавання 200-годдзя Дварцова-паркавага ансамбля Румянцава-Паскевіча і 855-годдзя Гомеля пройдзе Міжнародны фестываль харэаграфіі "Сожскі карагод".

## ■ КАНЦЭРТЫ

**У канцэртнай зале "Мінск"**

*18 верасня* — выступае Людміла Гурчанка.

**Хрысціянская група "Новы Іерусалім"** з новай канцэртнай праграмай "Ну што ты думаеш пра гэта?" ***па 24 верасня*** адправілася ў гастрольную паездку па Еўропе.

**Сталічны цырк** запрашае на адкрыццё сезона. У новай праграме "Усё гэта — цырк!" упершыню прымаюць удзел артысты беларускага і маскоўскага цыркаў.

**У Белдзяржфілармоніі**

***19 верасня*** — **адкрыццё 65-га юбілейнага канцэртнага сезона.** У праграме: І.Брамс, сімфонія №4, мі-мінор, сач.98; Вебер, уверцюра да оперы "Аберон"; Бетховен, канцэрт №5 мі-бемоль мажор для фартэпіяна з аркестрам, сачыненне №73.

**У Палацы прафсаюзаў**

***13 верасня*** — вечарына авангарднага джазу. Магілёўская філармонія прадставіць джаз-бэнд "Інтэрнэшнл Бласабфур" (Швейцарыя) з новай праграмай "Ужо восень, мае даражэнькія..."

## ■ ТЭАТРЫ

**Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы**

***13 верасня*** — П.Чайкоўскі "Яўген Анегін", опера ў трох дзеях.

***14 верасня*** — Дж.Вердзі "Рыгалета", опера ў трох дзеях.

***16 верасня*** — Ж.Бізэ "Кармэн", опера ў чатырох дзеях.

***18 верасня*** — "О, Моцарт, Моцарт!", музычна-тэатральная кампазіцыя ў двух аддзяленнях. У праграме — арыі і уверцюры з опер В.А.Моцарта. Опера Рымскага-Корсакава "Моцарт і Сальеры".

***20 верасня*** — П.Чайкоўскі "Пікавая дама", опера ў трох дзеях.

**Нацыянальны акадэмічны тэатр балета**

***14 верасня*** — **ПРЭМ'ЕРА!** А.Глазуноў "Раймонда", балет у трох дзеях.

***17 верасня*** — А.Пятроў "Сотворение мира", балет у дзвюх дзеях.

***19 верасня*** — Л.Мінкус "Дон Кіхот", балет у трох дзеях.

**У тэатры-студыі кінаакцёра**

***13, 14 верасня*** — А.Астроўскі "Таланты і прыхільнікі".

***16 верасня*** — Ю.Оснас "Незримый друг".

***18 верасня*** — Е.Міровіч "Театр купца Епишкина".

***20 верасня*** — Л.Вернейль "Похищение Елены".

**Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы**

***20 верасня*** — **ПРЭМ'ЕРА!** А.Дудараў "Князь Вітаўт".

**Мінскі тэатр сатыры і гумару "Хрыстафор"**

***20 верасня*** — **адкрыццё сезона.** "Выбранае" — лепшыя нумары, створаныя тэатрам за апошнія дзесяць год.

**Тэатр музкамедыі**

**20 верасня — адкрыццё сезона.** І.Штраус "Цыганскі барон", камічная опера ў дзвюх дзеях.

**Рускі тэатр** свой тэатральны сезон адкрые толькі напачатку наступнага месяца, але і зараз тэатральная трупа не адпачывае, а актыўна працуе для беларускай студэнцкай моладзі на выязных спектаклях.

**Падрыхтавала Марына КОКТЫШ.**

# Кроссворд

**По горизонтали:** 9. Знаменитая скульптура Огюста Родена из композиции "Врата ада". 10. Название советского правительства в 1917—1946 годах. 11. Старейшая марка американских легковых автомобилей. 12. Город, в котором родился Карл Маркс. 13. Северное направление. 14. Цветной металл. 15. Детская лопатка для песка. 17. Вера в сверхъестественное, в чудеса. 19. Гражданское судебное дело. 23. Короткая речь, произнесенная без подготовки. 24. Ребенок, тайком подброшенный матерью чужим людям. 25. Московский театр, основанный Аркадием Райкиным. 30. Тот, кто проповедует строгую нравственность. 32. Клей для наклеивания линолеума, синтетических ковров и плиток. 33. Жители теплых краев. 34. Конная повозка. 35. Русская народная игра с мячом и битой. 38. Деньги, взятые взаймы. 40. Хлопчатобумажный бархат. 41. Продолжительность трудовой деятельности. 42. Подъемная машина в многоэтажных домах. 43. Что носил на голове под цилиндром Артур Конан Дойл, когда практиковал пациентов? 44. Поэтический прием чрезмерного преувеличения с целью усиления впечатления.

**По вертикали:** 1. Жидкий отстой свернувшегося молока. 2. Плотский грех. 3. "Умом Россию не понять, аршином общим не измерить: у ней особенная ... — в Россию можно только верить" (Федор Тютчев). 4. Специалист по древнегреческому языку и литературе. 5. Таблица расположения планет и звезд на определенный момент времени. 6. Пища, еда. 7. Позор, от которого можно сгореть. 8. Русский борец, неоднократный чемпион мира среди профессионалов, за 40 лет выступлений не проигравший ни одного соревнования. 16. Болезнь, от которой погибла великая русская актриса Вера Комиссаржевская. 18. Капитан, чью пропавшую экспедицию разыскивал Саша Григорьев в романе Вениамина Каверина. 20. Вратарь, легенда советского футбола. 21. Скульптор, создавший памятник-шедевр И.Д.Черняховскому, который 40 лет украшал площадь в центре Вильнюса. 22. Древний польский город и порт, захваченный в 1939 году фашистской Германией и освобожденный в 1945 году Советской Армией. 26. Служебная обязанность, служебное место. 27. Большая гармонь со сложной системой ладов. 28. "Медовое дерево". 29. Овощ, вытеснивший на Руси репу. 31. Студент в пьесе А.П.Чехова "Вишневый сад". 32. Большое несчастье. 36. Надменность, высокомерие. 37. Автор экранизированного романа "Далеко от Москвы". 39. Немецкий писатель, поэт, ученый и философ. 42. Музыкальная группа, солистом которой является Николай Расторгуев.

**Составила Т.ВАСИЛЬЕВА.**

## Ответы на кроссворд, опубликованный в № 156

**По горизонтали:** 7. Облака. 8. Развод. 9. Крапива. 11. Злоба. 12. Ушкан. 13. Озверин. 14. Мяйле. 16. Пятна. 17. Брюхо. 19. Цацки. 21. Наряд. 23. Наркотики. 24. Ногти. 26. Кукла. 28. Ясень. 29. Пьеса. 31. Рэмбо. 33. Чернила. 35. Искра. 36. Норов. 37. Зощенко. 38. Болото. 39. Нактис.

**По вертикали:** 1. Обезьяна. 2. Дамокл. 3. Какао. 4. Браун. 5. Дзукия. 6. Познания. 10. Прелюбодеяние. 15. Единица. 16. Паникер. 17. Берия. 18. Озимь. 20. Цуг. 22. Рак. 25. Осьминог. 27. Любовник. 30. Сектор. 32. "Эврика!" 33. Чазов. 34. Анонс.

## Дзень у гісторыі

### 13 верасня

У 1562 г. шляхта ВКЛ на палявым сойме каля Віцебска прыняла акт і накіравала яго вялікаму князю Жыгімонту II Аўгусту з просьбаю заключыць новую дзяржаўную унію з Польшчай. Яна была заключана праз 7 гадоў і мела назву Люблінская унія. Такім чынам утварылася новая федэратыўная дзяржава — Рэч Паспалітая, у якой абедзве дзяржавы-складніцы захавалі свой суверэнітэт і свае дзяржаўныя мовы: Польшча — лацінскую, ВКЛ — беларускую.

У 1745 г. быў выдадзены першы геаграфічны "Атлас Расійскі" — збор карт усёй Расіі, састаўленых на навуковай аснове (з выяўленнем пунктаў астранамічна). Цікава, што назва "атлас" была выкарыстана ўпершыню для збору геаграфічных карт у 1595 г. фламандскім картографам Меркатарам у гонар Атласа — міфічнага караля Лівіі.

У 1854 г. пачалася абарона Севастопаля ад узброеных сіл Англіі, Францыі, Турцыі і Сардзініі.

У 1923 г. генерал М.Прыма дэ Рывера здзейсніў у Іспаніі дзяржаўны пераварот. Новы ўрад стаў называцца ваеннай дырэкторыяй. Былі забаронены амаль усе палітычныя партыі і рабочыя арганізацыі, адменена права рабочых на забастоўкі, мітынгі і сходы. У 1924 г. Прыма дэ Рывера стварыў афіцыйную партыю ваенна-манархічнай дыктатуры — Патрыятычны саюз, а ў 1930 г., сутыкнуўшыся з высокай хваляй агульнанацыянальнага супраціўлення, выйшаў у адстаўку.

У 1929 г. А.В.Луначарскі зняты з пасады наркома (міністра) асветы, на якой ён знаходзіўся з 1917 г. У 1933 г. ён быў прызначаны паслом СССР у Іспаніі, у якой тады якраз распачалася буржуазна-дэмакратычная рэвалюцыя (1931—1939 гг.).

У 1960 г. у г.Дайтан (штат Агайо, ЗША) адкрыўся сімпозіум пад дэвізам "Жывыя арганізмы — ключ да новай тэхнікі!". Гэты дзень лічыцца днём нараджэння навукі біёнікі.

У 1974 г. Беларуская рэспубліканская станцыя тэлебачання пачала каляровыя перадачы.

### 14 верасня

У 1847 г. нарадзіўся Павел Яблачкаў — рускі электратэхнік, вынаходнік (асноўная яго вынаходка — дугавая лямпа). У 1879 г. ён выказаў ідэю цэнтралізаванага вырабу электраэнергіі і перадачы яе па сетках да месцаў спажывання.

У 1867 г. выйшаў у свет першы том "Капітала" К.Маркса.

У 1920 г. у Мінску пачаў дзейнічаць Беларускі драматычны тэатр, які з 1944 г. носіць імя Янкі Купалы.

У 1921 г. у Вільні выйшаў першы нумар грамадска-палітычнай газеты "Беларускія ведамасці".

У 1944 г. пачалася Прыбалтыйская наступальная аперацыя Савецкай Арміі, у выніку якой былі вызвалены ад фашыстаў тэрыторыі Літвы, Эстоніі, Латвіі (большая частка).

### 15 верасня

У 1648 г. памёр Афанасій Філіповіч — пісьменнік-палеміст, грамадскі і царкоўны дзеяч ВКЛ, вялікі праціўнік каталіцызму і Брэсцкай царкоўнай уніі. У 1649 г. ён быў кананізаваны праваслаўнай царквой у святыя.

У 1789 г. нарадзіўся Джэймс Фенімор Купер — амерыканскі пісьменнік, аўтар раманаў пра індзейцаў — "Апошні з магікан", "Следапыт", "Зверабой" і інш.

У 1922 г. у Мінску была заснавана Беларуская дзяржаўная і універсітэцкая бібліятэка (з 1926 г. яна стала называцца Беларуская дзяржаўная бібліятэка, а з 1992 г. — Нацыянальная бібліятэка Беларусі).

У 1951 г. Мінскі радыёзавод пачаў выпуск сваёй першай прадукцыі — радыёлы "Мінск - Р-7". Пасля завод стаў называць сваю прадукцыю ўсё больш велічна: "Беларусь", "Акіян", "Селена"...

У 1959 г. савецкі атамны ледакол "Ленін" выйшаў у сваё першае плаванне. Аналагаў яму ў свеце тады не было.

У 1961 г. пачала працаваць Брэсцкая абласная студыя тэлебачання.

У 1987 г. у Нью-Йорку адкрылася 42-я сесія Генеральнай асамблеі ААН. На ёй была прынята Дэкларацыя аб непрымяненні сілы ў міжнародных зносінах.

**Падрыхтаваў Зміцер ВІШНЁЎ.**

Хочаце — верце, хочаце — не верце

# Будучы тыдзень: зоркі прадказваюць

**Авенам (21 сакавіка — 20 красавіка)** — каханне і сямейнае шчасце. Не выключана, што на гэтым тыдні атрымаеце задавальненне ад працы. Справы ў вас будуць ладзіцца, а настрой ад гэтага стане выдатным. Важныя дзелавыя перагаворы, верагодна, запатрабуюць вашага асабістага ўдзелу, як і вырашэнне фінансавых праблем з нейкім выпадковым знаёмым. Рознагалоссі са сваякамі, мабыць, удасца ўрэгуляваць і ўстанавіць у адносінах мір і згоду. Зусім нечакана можаце сутыкнуцца з таямнічымі з'явамі і разгадаць некалькі прыемных сакрэтаў.

**Цяльцам (21 красавіка — 21 мая)** — паляпшэнне фінансавага становішча і выкарыстанне дадзеных лёсам шанцаў. Магчыма, што людзям творчых прафесій паступяць цікавыя прапановы аб супрацоўніцтве. Тыя, хто марыць пра ўласную справу, як сцвярджаюць зоркі, могуць смела распачынаць выкананне задуманага. Фінансавая і іншая падтрымка вашаму пачынанню менавіта на гэтым тыдні забяспечана. Аднак, нягледзячы ні на якія абяцанкі-цацанкі, дзейнічайце асцярожна і без залішняй мітусні. Відаць, вас сустрэне каханне. Дарэчы, гэты тыдзень — даволі спрыяльны час для любоўных сувязяў і знаёмстваў з абаяльнымі прадстаўнікамі супрацьлеглага полу.

**Блізнятам (22 мая — 21 чэрвеня)** — праблемы ў адносінах са сваякамі. Як сцвярджаюць планеты, чым больш рашуча вы будзеце шукаць з імі агульную мову, тым мацнейшым будзе іх адчужэнне. Лепш пакінуць усё так, як ёсць, і накіравацца ў кароткае падарожжа па справах ці для адпачынку. Зоркі гэтаму спрыюць. Майце на ўвазе, што гэты тыдзень не самы ўдалы час для інвестыцый. Планеты папярэджваюць, што вам пакуль што не варта брацца за працу, звязаную з фінансамі, архівамі, транспартнымі сродкамі, навукай, сувяззю і аліментамі. Яшчэ таксама рана змагацца за ўладу і жадаемую пасаду.

**Ракам (22 чэрвеня — 23 ліпеня)** — інтэлектуальную дзейнасць і абыякавасць да ўсяго навакольнага. Не выключана, што вам давядзецца пайсці на фінансавую рызыку, але ў выніку акажацеся ў выйгрышы і атрымаеце багатыя дывідэнды. Зоркі раяць больш старанна выбіраць партнёра для сумеснай дзейнасці і па меры магчымасці мець справу толькі з тымі, хто рэальна можа вам дапамагчы. Відаць, вы зразумееце нешта важнае і, магчыма, станеце больш цярплівым чалавекам. Гэта, абнадзейваюць зоркі, аблегчыць вашыя ўзаемаадносіны з каханым чалавекам.

**Львам (24 ліпеня — 23 жніўня)** — сустрэчы. Мабыць, на ўласным вопыце даведаецеся, што на гэтым тыдні ўдача будзе на баку прадстаўніц слабога полу, а моцнаму яна ўсміхнецца даволі скупа. Па словах астролагаў, добра пойдуць справы ў будаўнікоў і гандляроў прадуктамі харчавання. Не выключана, што хатнія гаспадыні зробяць дарагую пакупку, чым, шчыра кажучы, не парадуюць блізкіх. У першай палове тыдня не выключана фінансавыя праблемы. Але вам трэба ведаць, што дрэнны настрой, на шчасце, не працягнецца вельмі доўга.

**Дзевам (24 жніўня — 23 верасня)** — поспех. Узнагарода за вашую непамерную працу, сцвярджаюць зоркі, абяцае быць адэкватнай затрачаным сілам. Пры ўмове, што вы не будзеце вельмі многа размаўляць аб гэтым з навакольнымі. Планеты раяць выкарыстаць дадзены лёсам шанц і, нягледзячы на вялікую колькасць працы, адправіцца ў прыемнае падарожжа з каханым чалавекам. Больш давярайце сваёй інтуіцыі і будзьце асцярожныя з электрапрыборамі. Дарэчы, другая частка тыдня абяцае быць даволі напружанай і мітуслівай.

**Шалям (24 верасня — 23 кастрычніка)** — страсць. Магчымыя вялікія расходы ў сувязі з рознымі сямейнымі ўрачыстасцямі і прыёмамі гасцей. З-за недахопу грошай у сям'і могуць узнікнуць канфліктныя сітуацыі. Спрэчкі з роднымі будуць пераадолены, а закаханыя і маладыя нарэшце атрымаюць магчымасць застацца адзін на адзін са сваімі пачуццямі. Напрыканцы тыдня вам наканаваны сур'ёзныя выпрабаванні. Не выключаныя нават кардынальныя змены ў асабістым жыцці. Прадбачацца таксама праблемы сексуальнага характару.

**Скарпіёнам (24 кастрычніка — 22 лістапада)** — усеагульную ўвагу. Не выключана, што трапіце ў палон недарэчнага аптымізму: на нейкі час здасца, што вам усё пад сілу, і вы, магчыма, наабяцаеце больш, чым зможаце выканаць. Радасць і асалоду ў жыцці прынясуць грамадскія сувязі. Аднак сярэдзіна тыдня падрыхтавала вам непрыемныя сюрпрызы. Магчыма, вам будзе не ставаць веры ў свае інтэлектуальныя магчымасці. У выхадныя вы, відаць, дакранецеся да акультызму, астралогіі і нетрадыцыйных светапоглядаў. Планеты раяць больш надаваць увагі пачуццям, не ігнараваць жаданні іншых.

**Стральцам (23 лістапада — 21 снежня)** — неблагія ганарары і дарагія забавы. Не выключана, што перад вамі раскрыюцца вялікія магчымасці ў розных сферах дзейнасці: паступяць даволі спакуслівыя прапановы ці прыйдзе светлае, але нешчаслівае пачуццё кахання. Верагоднае таксама на гэтым тыдні і адраджэнне былых любоўных сувязяў. Напрыканцы тыдня, мабыць, сустрэнецеся са старым добрым знаёмым. Невялікі зварот у мінулае дасць вам магчымасць адчуць сябе свабодным і ігнаруючым нормы маралі. Але, сцвярджаюць зоркі, вы рызыкуеце застацца незразумелым... Выкарыстоўвайце сваю знешнюю прывабнасць, чароўнасць.

**Казярогам (22 снежня — 20 студзеня)** — інтымныя адносіны, а таксама нечаканую актыўнасць у спалучэнні са здаровым сэнсам. Не выключана, што праявіцца спачуванне да людзей, што вакол вас. Мабыць, напрыканцы тыдня ўзнікне моцнае жаданне заняцца асабістай гаспадаркай, домам, сям'ёй. Як сцвярджаюць планеты, тыя, хто не жадае зусім нічога мяняць у сваім жыцці, павінен крыху адпачыць. Але вашая рашучасць і духоўнасць дапамогуць вам ажыццявіць свае самыя смелыя мары. Верагодна, вам прыйдзецца мець справу з антыкварыятам, рэстаўрацыяй ці ўпрыгожаннямі. Поспех вам будзе спадарожнічаць, асабліва калі вашая дзейнасць звязана з мастацтвам, транспартнымі сродкамі і навукай.

**Вадалеям (21 студзеня — 19 лютага)** — рамантычную вечарыну, расчараванні і фінансавы прыбытак. На жаль, больш грунтоўна акрэсляцца нейкія негатыўныя абавязкі, якія, шчыра кажучы, парушаць некаторыя вашыя планы. Аднак, нягледзячы на ўсё гэта, час спрыяльны для інтэнсіўнай інтэлектуальнай творчасці. Магчымыя нечаканасці, прычым не толькі прыемныя, таму будзьце маральна падрыхтаваныя да ўсяго. Хутчэй за ўсё, невялікія няўдачы будуць праследаваць вас у калектыве.

**Рыбам (20 лютага — 20 сакавіка)** — паспяховы вучэбны працэс. Не выключана, што вы сутыкнецеся з нечаканымі праблемамі, якія паўплываюць на ход вашых спраў. Аднак, нягледзячы на часовыя фінансавыя цяжкасці, хваляванне і трата сіл на пошук выйсця са складанай сітуацыі вам кампенсуюцца. Некаторых чакае важная паездка на поўнач з мэтай атрымання ўзнагароды ці іншых ушанаванняў. Тыя, хто застанецца дома, нечакана знойдуць у сабе літаратурныя здольнасці і створаць нешта, што зацікавіць салідныя выдавецтвы.

